Тэма нумару: **Справы камунальныя**

НАШ Магілёў

# Наш Магілёў

Грамадска-палітычная незалежная газета горада № 44(6), ліпень 2010 года

# Капремонт пообещали сделать

*Андрей Волков*

**Могилёвский горисполком пообещал сделать капремонт дома № 4 на улице Островского. Именного такого результата хотела добиться активистка Наталья Зайцева через акцию "Дом №4", проводимой в рамках кампании "Говори правду!".**

Однако, судя по отфвету чиновников, борьбу ещё нельзя считать законченой:

"На Ваше оборащение в ходе личного приёма заместителем председателя облисполкома Шкрадюка Л. С. сообщаем, что Могогорисполкому поручено обеспечить изготовление проекто-сметной документации на капитальный ремонт дома 4 по ул. Островского в текущем году, а выполнение работ в 2011 г. По информации Моггорисполкома от 22.06.2010 № К-384/1-доп в настоящее время ведётся разработка проектно-сметной документации по тепловой модернизации здания".

Так о чём же идёт речь: о тепловой модернизации или полноценном капремонте?

Вот как считает Наталья Зайцева:

"Это очередная, более изощрённая отписка властей, чтобы ещё раз протянуть время и испытать наши нервы. Во-первых, капремонт и тепловая модернизация - разные мероприятия. Из ответа непонятно какое из этих мероприятий будут проводить с нашим домом. Во-вторых, наш дом № 4 остался единственным из этой серии домов, причём самый старый, который не отремонтировали (значит, подобная проектно-сметная документация уже существует и, используя современные компьютерные програмы, не составит особого труда адаптировать смету к нашему дому). В третьих, изготовление этих документов в современных условиях не потребует столько времени, сколько указано в ответе Могоблисполкома.

Мы занимаемся перепиской с властью с 2007 года. Ссылаясь друг на друга, местные структуры занимаются отписками и проволочками. В 2010 году сменилось руководство города и области. Мы надеялись, что этот факт приблизит капремонт нашего дома. Увы! Напрашивается вывод: проблема не только в персоналиях, просто сама система действующей вертикали начала очень часто давать сбои. Следовательно, нужно пересмотреть и действующую структуру власти и способы управления, методы руководства, и, вообще, стиль общения и работы чиновников с населением. Я предлагаю инициировать в ППНС РБ приняте Закона о переводе на контрактную систему чиновников и руководителей естного уровня. Год отработал, не справился, схлопотал кучу жалоб - освободи место. Здоровая конкуренция! А то жизнь идё, как говориться, а "воз и ныне там"".

Одной из причин активности жильцов дома №4 был технический паспорт на углу дома, в котором синим по белому было указано, что капитальный ремонт был произведён ещё в 2004 году. Жильцы же утверждают, что дом не ремонтировали с момента постройки, иногда только латали крышу.

Соответственно, когда ситуация с ремонтом дома вылилась в гражданскую акцию, и всё Заднепровье было заклеено листовками с текстом "Позор чиновникам допустившим такую ситуацию", первой реакцией ЖЭУ была замена этой самой таблички. Сначала табличку - техпаспорт вообще сняли, но вскоре привезли и повесили на место с исправленным текстом. Слова "капремонт дома произведён" замазали и поверх написали "капремонт кровли произведён".

Стоит отметить, что домов требующих капитального ремонта в Могилёве не мало. Ещё не отремонтированы дома, очередь которых подошла ещё в 2009 году. Инициатива Натальи Зайцевой стала основой для сбора подписей активистами кампании за запрет строительства спортивных объектов до тех пор, пока не выполнен план по капремонту жилья.




ул.Остр

| ОБЩИЕ СВЕДЕНИЯ | | |
|---|---|---|
| ГОД ПОСТРОЙКИ | 1971 | |
| ОБЩАЯ ПЛОЩАДЬ | 3937 | КВ.М |
| КОЛИЧЕСТВО КВАРТИР | 90 | |
| ИЗ НИХ В ЧАСТНОЙ СОБСТВЕННОСТИ | 49 | |
| ПОСЛЕДНИЙ КАПИТАЛЬНЫЙ РЕМОНТ ПРОИЗВЕДЕН (год) | 2004г. | |
| ПЛАНИРУЕМЫЙ КАПИТАЛЬНЫЙ РЕМОНТ (год) | | |

**Старый вариант техпаспорта, который и возмутил жильцов**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ**



**ПОШТА**

**Сутыкнуліся з праблемай і не ведаеце да каго звярнуцца?**
**Пішыце нам - мы паспрабуем дапамагчы Вам!**
Магілёў, вул. Ленінская, 29, оф. 315,
e-mail: mahilou@tut.by

*Вітольд Няўрыда*

**Магілёўская грамадская актывістка Наталля Зайцава на працягу апошніх трох год змагаецца за капітальны рамонт сваёй хрушчоўкі, пабудаванай яшчэ ў 1971 годдзе.**

Пра тое, як праходзіць яе змаганне і чаго яна дасягнула за гэты перыяд, яна расказала ў інтэрвью для грамадзянскай кампаніі "Гавары праўду".

**- Наталля, чым вымушана ваша ініцыятыва? Што з вашым домам не так?**

- Па-першае, вельмі халодна зімой. Сярэдняя тэмпература ўзімку складае 14 градусаў. Сырасць, асабліва ў першым і апошнім пад'ездах, працякае дах, балконныя пліты сыпяцца, панэлі трашчаць, у падвалах вады па калена, пастаянна ваняе каналізацыяй. Акрамя гэтага, шмат у каго з жыхароў на сценах праяўляецца грыбок, адстаюць ад сырасці шпалеры, на першых паверхах - гнілая падлога.

**- Куды звярталіся са сваёй праблемай?**

- Я неаднаразова звярталася ў домаўпраўленне, КУП ЖРЭЎ і далей у вышэйстаячыя інстанцыі. Адказы былі розныя, але ўсе гэтыя жалі, каб азнаёміцца са станам нашага дома. Чыноўнікі, якія былі пры былым старшыні гарвыканкама Віктару Шорыкаву, проста вешалі нам "лапшу на вушы", чыноўнікі пры новым "мэры" Станіславе Барадаўка абяцалі выправіць сітуацыю, але ўсё пакуль засталося без зменаў. 1 чэрвеня рашэннем гарвыканкама нам было адмоўлена ў правядзенні пікета з мэтай прыцягнуць увагу да нашай праблемы.

**- Але як патлумачыць, што на тэхнічным пашпарце дома вісела інфармацыя аб тым, што дом быў капітальна адрамантаваны ў 2004 годдзе?**

- Сапраўды, працяглы час на тэхпашпарце дома была змешчана інфармацыя аб тым, што ў 2004 годдзе адбыўся капітальны рамонт нашага дома, але нічога падобнага не было. Гэта нахабная хлусня. Пры капітальным рамонце цалкам мяняюцца ўсе ўнутраныя камунікацыі, электраправодка, вокны, дзверы, адбываецца ўмацаванне балконаў, рамонт пад'ездаў і г.д., але гэтага нічога і блізу не было. Пасля таго, як мяне 25 чэрвеня затрымалі за расклейку плакатаў каля свайго дома, дзе я ганьбіла мясцовых чыноўнікаў за іх неразваротлівасць у пымонт страхі дома адбываўся ў 2005 годдзе. Пра капітальны рамонт дома ўжо не было і слова. Ходзяць чуткі аб тым, што магчыма звольнюць начальніка нашага ЖЭЎ, але гэта пакуль толькі чуткі.

**- За што цябе затрымалі супрацоўнікі міліцыі?**

- 25 чэрвеня я развешвала плакаты-улёткі на слупах і пад'ездах каля свайго дома, дзе паказвала бяздзейнасць нашай мясцовай улады ў дачыненні да вырашэння праблемы капітальнага рамонат нашага дома. Прыпынілася белая машына, з якой выскачыў капітан міліцыі і падбег да мяне - выхапіў са сваёй кішэні ўлётку з лагатыпам кампаніі "Гавары праўду" "100 абліччаў беспрацоўных" і пачаў параўноўваць лагатып на маёй улётцы з улёткай, якую дастаў са сваёй кішэні. На яго радасць лагатыпы супалі, пасля чаго машына развярнулася і пад'ехала да мяне. З яе выйшаў яшчэ адзін супрацоўнік міліцыі і яны ўжо ўдвух мяне жорстка трымалі за дзве рукі, напэўна, каб я нікуды не ўцякла ад двух здаровых мужыкоў. Трымалі так моцна, што наставілі мне сінякоў, у выніку чаго я была вымушана прайці судова-медыцынскую экспертызу, якая засведчыла наяўнасць іх у мяне. У выніку і маёра Сенатава, якія сваімі дзеяннямі абразілі мяне як жанчыну сваім беспадстаўным затрыманнем ды яшчэ наставілі мне сінякоў.

**- Як жыхары дома ставяцца да тваёй ініцыятывы дамагчыся капітальнага рамонта дома?**

- Я бы сказала, што вельмі станоўча. Гэта праблема нас моцна з'яднала. Мы сталі больш сябраваць і ў нас знайшлася агульная тэма для размоваў. Калі я збіраю подпісы пад чарговым зваротам з патрабаваннем зрабіць капітальны рамонт нашага дома, то падпісваюцца амаль усе. Выключэнне складае некалькі дробных чыноўнікаў і супрацоўнікаў міліцыі, якія вусна згаджаюцца з праблемай і неабходнасцю яе вырашыць, але адмаўляюцца падпісвацца, бо баяцца наступстваў з-за гэтага на сваёй працы.

**- Ці праяўляюць давер жыхары дома праўладным дэпутатам і выбарам?**

- Людзі расчараваны мясцовай уладай і самімі выбарамі. Магу сказаць, што з-за таго што дагэтуль не вырашана праблема нашага дома, амаль ніхто з яго жыхароў не хадзіў галасаваць. Гэта такі свайго кшталту пратэст цяперашняй бяздзейснай уладзе. Калі сітуацыя з рамонтам не зменіцца,



# *Наталля Зайцава:* "Чыноўнікі проста вешалі нам "лапшу"

інстанцыі аддалялі тэрмін капітальнага рамонта дому да 2011, 2013 і 2014 гадаў. Пазней былі адказы, што наш дом знаходзіцца ў здавальняючым стане і нам не патрэбен капітальны рамонт. Пракуратура і Камітэт дзяржкантроля перасылалі мае звароты мясцовым арганізацыям ЖЭЎ і КУП ЖРЭЎ. Некалькі разоў з гэтай праблемай я была на прыёме ў гарвыканкаме і аблвыканкаме. У нас было некалькі выязных камісій, якія прыязджанні правядзення капітальнага рамонта нашага дома, звесткі ў тэхнічным пашпарце дома былі зменены. Гэта адбылося пасля таго, як да нашага дома на мікрааўтобусе прыехала аж пяць начальнікаў, якія хадзілі і глядзелі што не задавальняе жыхароў. Пасля супрацоўнікі ЖЭЎ знялі хлуслівыя звесткі ў тэхпашпарце дома і праз паўдні вывесілі новы тэхпашпарт, у якім былі ўнесены змены. Новая рэдакцыя была такой - апошні капітальны раку ў мяне забралі ўсе мае плакаты з лагатыпам кампаніі "Гавары праўду" і далі штраф у памеры 17 500 рублёў. Я з ім не згодна і ўжо падрыхтавала скаргу на пастанову па адміністрацыйным затрыманні на імя начальніка УЎС ДАІ Магілёўскага аблвыканкама дзе тлумачу, што гэты штраф перабольшвае ступень маёй віны і патрабую яго адмяніць. Акрамя гэтага я таксама падрыхтавала скаргу на дзеянні супрацоўнікаў міліцыі капітана Адамто праігнаруем і прэзідэнцкія выбары.

**- Чаго вы дамагліся за тры гады свайго змагання?**

Ну (смяецца), змянілі звесткі ў тэхпашпарце дома. Некаторым жыхарам ЖЭЎ выдаткавай некалькі трубак шпалераў, тым у каго ад сырых сцен адыйшлі шпалеры, аднаму жыхару пятага паверха далі трубку рубероіда, каб той накрыў страху над сваёй кватэрай, бо яна ў яго працякала, крыху пачысцілі падвалы, казыркі на пад'ездах, бо там на некаторых ужо пачалі расці дрэвы, камусці падмазалі шчыліны, але вось гэтым рамонта нашага дома пакуль і абмежаваўся. Сярод заслуг ЖЭЎ можна назваць дзіцячую пляцоўку каля дома, каля якой таксама паставілі некалькі лавак. Мы гэтага вельмі доўга дамагаліся, але гэта бадай адзінае, чаго мы дамагліся ў поўнай меры.

**- Якія дзеянні ты разам з жыхарамі дома будзеш прадпрымаць надалей?**

- Зараз я сабрала каля 300 подпісаў жыхароў свайго дома, што па вул. Астроўскага 4 і буду іх высылаць прадстаўнікам гарадскога і абласнога Савета дэпутатаў. Будзем чакаць, што яны нам адкажуць і ці дапамогуць у вырашэнні праблемы з капрамонтам. Калі ж ніякай рэакцыі не будзе, то зробім пікет, калі не дазволяць - зробім яго несанкцыянаваным. Калі да прэзідэнцкіх выбараў зрухаў не будзе - буду сплачваць людзей, каб сумесна байкатаваць чарговыя выбары.

# Кіргістан. Няўстойлівасць азіяцкай дэмакратыі

Працяг, пачатак у №43

*Ігар Барысаў*

**Амерыканцы бачучы ўсю ненадзейнасць клана Бакіевых таксама не спяшаліся ўкладаць свае сродкі.**

Не задавальняла амерыканцаў таксама і сітуацыя вакол іх ваеннай базы "Манас", якая знаходзілася з 2001 года на тэрыторыі Кіргістана і якую ўрад краіны спяшаўся зачыніць, каб атрымаць ад Масквы крэдыт на будаўніцтва ўжо ўзгаданай Камбарацінскай ГЭС. Гэта прымусіла амерыканцаў пахвалявацца і адпраўляць для ўрэгулявання сітуацыі свае афіцыйныя дэлегацыі. Пасля было прынята рашэнне аб тым, што база "Манас" закрываецца, а на яе месцы з выкарыстоўваннем яе інфраструктуры адкрываецца цэнтр транзітных перавозак ЗША. Па істотнасці мянялася толькі назва, а функцыі заставаліся тыя самыя. Цана за арэнду "цэнтра" узрасла ў некалькі разоў.

Сямейны клан Бакіева аказаўся значна большым, чым быў клан Акаева. Усе члены сям'і першага атрымалі высокія дзяржаўныя пасады. Сярод кіргізаў хадзілі чуткі аб тым, што сям'я таксама курыравала і наркатрафік, які займаў львіную долю прыбыткаў у ценявой эканоміцы.

Курманбек Бакіеў не цярпеў іншадумства сярод чыноўнікаў і перыядычна праводзіў рознага кшталту чысткі, ставячы на вызваленыя пасады членаў сваёй сям'і, альбо зусім маладых кіраўнікоў. Адна з такіх апошніх чыстак адбылася ў сярэдзіне студзеня, калі ў адзін дзень ён пазбавіў сваіх пасадаў 15 высокапастаўленых асоб у краіне. Сярод іх былі міністры, губернатары, мэры і амбасадары.

Адной з апошніх кропель у кіргізаў (хоць гэта катэгарычна абвяргае зрынуты Прэзідэнт Курманбек Бакіеў), якая прывяла да дзяржаўнага пераварота было ўзвышэнне коштаў на ЖКГ. Прычым тарыфы павінны былі ўзрасці на гарачую ваду, ацяпленне і электраэнэргію ў 10,4 і 2,5 разы. Узвышэнне іх планавалася рабіць у два этапы - у студзені і ў ліпені гэтага года. Калі ж пасля першага ўзвышэння тарыфаў кіргізы атрымалі жыроўкі на рукі, то ў поўнай меры адчулі на сабе антынароднасць прынятага ўрадам рашэння.

За апошні год прэзідэнцтва Курманбека Бакіева па краіне пракацілася хваля нападаў на супрацоўнікаў СМІ. Быў моцна збіты журналіст Кубанычбек Жолдашаў, палітычны аглядальнік Сыргак Абдылдаеў. Апошні атрымаў 21 нажавое раненне, адкрытыя пераломы абедзьвух рук, сатрасенне мозга, ушыб грудной клеткі.

Пасля выхаду з клінікі ён пакінуў Кіргістан. Журналіст Алмаз Ташыеў быў зверскі забіт насмерць п'янымі супрацоўнікамі міліцыі, а Генадзь Паўлюк быў звязаны па руках і нагах скотчам і выкінуты з шостага паверха ў Алма-Аце і не прыходзячы ў свядомасць адыйшоў у лепшы свет. У апошні час нападам падвяргаліся журналісты, якія супрацоўнічалі з расійскімі СМІ: Аляксандр Князеў, Аляксандр Яфграфаў, Генадзь Паўлюк і іншыя.



**Фота з мінулага**
**Лукашэнка і Бакіеў: яшчэ нішто не перадвяшчала бяды...**

## Слабасць новага часовага ўраду народнага даверу

Новы ўрад народнага даверу, які быў створаны з ліку прадстаўнікоў апазіцыі паказаў, што не кантралюе сітуацыю ў краіне. Марадзёрства, з якім з цяжкасцю змагалася міліцыя пры дапамозе сфармаваных народных дружын паступова пачало перарастаць у межэтнічныя канфлікты паміж кіргізамі і узбекамі не без падтрымкі прыхільнікаў экс-прэзідэнта Курманбека Бакіева. Пад шумок дасталося і рускім, якія ў чарговы раз мусілі пакаваць чамаданы і вяртацца на "вялікую" зямлю.

Урад быў вымушаны звярнуцца па дапамогу да Расіі. У яе ён прасіў увесці войскі міратворцаў, для нармалізацыі сітуацыі ў рэгіёне. Пакуль афіцыйная Масква не адважылася на такі рашучы крок і заявіла аб сваім няўмяшальніцтве.

Логіка часовага ўрада народнага даверу зразумелая - калі лідар постсавецкай прасторы прызнаў новы ўрад Кіргістана, значыць ён зацікаўлены ў нармалізацыі сітуацыі ў краіне і падтрымлівае адбыўшаюся змену ўлады.

Арганізацыя дамовы калектыўнай бяспекі (АДКБ), якая дагэтуль яшчэ ні разу не прымала ўдзелу ў нармалізацыі ўзброенных канфліктаў пакуль не адважылася прыняць хоць якое рашэнне (негледзячы на тое, што праходзіла экстрэннае пасяджэнне Камітэта сакратарэй рады бяспекі) і адважыцца на ўвядзенне сумесных войскаў на тэрыторыю Кіргістана.

## Роля Беларусі ў кіргізскіх праблемах

Трэба адзначыць, што ў падзеях, якія адбываюцца ў Кіргістане адно з заўважных месцаў займае пазіцыя Менска. Гэта звязана з прадастаўленнем "даху на галавой" экс-прэзідэнту Кіргістана Курманбеку Бакіеву і пляцоўкі для дзеяння. Адна справа прадаставіць палітычны прытулак, як гэта зрабіла Масква ў дачыненні да зрынутага ў выніку рэвалюцыі "цюльпанаў" Аскару Акаеву, які потым пасля перамоваў з прадстаўнікамі прыйшоўшай да ўлады апазіцыі падпісаў заяву аб сваім сыходзе з пасады прэзідэнта краіны, а другая справа сваімі заявамі падтрымліваць эскалацыю канфлікту ў Кіргістане, як гэта спрабуе рабіць Менск.

Першапачаткова Курманбек Бакіеў таксама падпісаў заяву аб сваёй адстаўцы, але ўжо 23 красавіка на прэс-канферэнцыі ў Менску адмовіўся ад яе, спаслаўшыся на тое, што яна была напісана пад пагрозай.

Зацікаўленасць Менска ў падзеях у Кіргістане заключаецца ў супрацьстаянні Расіі праз трэцюю краіну. Гэта можна назваць лішнім балам для гандлю ў іншых знешнепалітычных пытаннях з усходнім суседам.

З другога боку Беларусь такім чынам спрабуе аслабіць Расію, як лідара постсавецкай прасторы і надаць важнасць непасрэдна міратворчым войскам АДКБ, а не расійскім міратворцам. Просьба з увядзеннем войск калектыўнай бяспекі была агучана Курманбекам Бакіевым хутчэй за ўсё пасля кансультацый, ці размоваў з беларускім прэзідэнтам.

Яшчэ адна з прычын - гэта салідарнасць са зрынутым рэжымам Курманбека Бакіева. Гэта свайго кшталту задзел на будучыню і абарона ад "каляровых" рэвалюцый, ці дзяржаўных пераваротаў у Беларусі з дапамогай сіл АДКБ, калі б гэтыя сілы igралі б функцыю знешней міратворчай стабілізуючай арганізацыі, зацікаўленай у падтрымцы зрынутай улады.

З эканамічнага пункту погляда Беларусі патрэбны інвестыцыі ў эканоміку. Грошы, якімі валодае клан экс-прэзідэнта Курманбека Бакіеў, і якія былі "адмыты" рознымі незаконнымі шляхамі, маглі бы ў якасці інвестыцый спатрэбіцца і беларускай эканоміцы. Па папярэдніх прагнозах гэта сума складае каля 200 млн. даляраў. Сам Бакіеў факт вывазу грошай з краіны адмаўляе.

## Выснова

Кіргізы як народ ёсць і гэта праверана гісторыяй, а вось існаванне Кіргістана як незалежнай дзяржавы выклікае вялікае пытанне. Дрэнные геаграфічнае становішча, пераважна горны ландшафт, адсутнасць углевадародаў у якасці прыродных рэсурсаў, а таксама і іншых прыродных рэсурсаў, фактычная адсутнасць прамысловасці, павальная беднота насельніцтва, кланавасць, адсутнасць традыцый уласнай дзяржаўнасці, змена ўлады рэвалюцыйным шляхам, міжэтнічныя канфлікты - вось аргументы, якія знаходзяцца не на баку кіргізскай дзяржаўнасці.

"Цюльпанавая" рэвалюцыя, з ліку каляровых рэвалюцый, не паўплывала на дэмакратызацыю краіны, а прывяла да ўсталявання яшчэ больш жосткай дыктатуры, бо фактычна ў краіне не адбылося ніякіх істотных дэмакратычных пераўтварэнняў. На прыкладзе Кіргістана можна сказаць, што азіяцкай краіне з традыцыйным ладам жыцця вельмі цяжка навязаць заходны лад жыцця з яго каштоўнасцямі і прынцыпамі. Гэта відаць на справе, калі далей самой рэвалюцыі, якая была арганізавана дэмакратычным сіламі, справы па ўсталяванні дэмакратыі ў краіне не пайшлі.

У беднай краіне і бедныя дыктатары. Калі параўноўваць капіталы, якімі валодаюць расійскія, украінскія алігархі, ці еўрапейскія мільянеры, то вывезеная сума з краіны кланам Бакіевых выглядае вельмі скудна.

А пакуль што кіргізы займаюцца грабяжом, марадзёрствам і разбурэннем таго што ёсць, спрабуючы схапіць "сініцу ў руцэ" прагнучы імгненнай нажывы, не думаючы пра тое, што сваімі дзеяннямі яны руйнуюць і губяць краіну.

Па самым горшым сцэнару Кіргістан можа стаць ахвярай інтарэсаў Узбекістана, Расіі і Кітая.








**За вуліцу імя Васіля Быкава у Мінску сабрана 95246 подпісаў**

**За вуліцу імя Васіля Быкава ў Гродна сабрана 7503 подпісаў**

# Жыхары Магілёва патрабуюць прадухіліць экалагічную катастрофу

**У Магілёве актывісты кампаніі "Гавары праўду" распачалі збор подпісаў з патрабаваннем да мясцовай улады прадухіліць экалагічную катастрофу, якая звязана з распаўсюдам атрутнага баршчэўніка.**



"Увесь раён Падмікolля зарос атрутным баршчэўнікам, - гаворыць ініцыятар збору подпісаў, актывіст кампаніі "Гавары праўду" Андрэй Двігун. - Гэтая расліна расцець таксама і каля ахоўных зон свідравін вадаканала. Баршчэўнік выцясняе іншую флору Падмікolля і пры такіх тэмпах яго распаўсюду мы можам атрымаць раён у цэнтры Магілёва, які цалкам будзе засеяны гэтай атрутнай раслінай".

Актывіст адзначае, што ў Мінску гарвыканкам ставіцца да гэтай праблемы з належнай увагай і своечасова прымае меры па знішчэнню баршчэўніка, тым больш, што змаганне з гэтай раслінай адбываецца на ўзроўні краіны.

Сабраныя подпісы, актывісты збіраюцца перадаць прадстаўнікам гарадскога і абласнога Савета дэпутатаў.

"Гэта праблема выявілася, калі мы займаліся прыбіраннем смецця ў гэтым раёне, - адзначае Андрэй. - Да нас звярнуліся мясцовыя жыхары, якія не ведалі што рабіць з гэтай праблемай і прасілі ў нас дапамогі, вось мы і ўзялі ініцыятыву ў вайне з баршчэўнікам на сябе".

Даведка: Баршчэўнік (Heracleum) мае вышыню да 4-х метраў. З'яляецца пустазеллем. Небяспека заключаецца ў тым, што сок баршчэўніка пры трапанданні на скуру выклікае моцныя апёкі. Пры яго апёках медыкі рэкамендуюць неадкладна звяртацца ў шпіталь. Раней гэтая расліна належыла да выміраючага віду і яе ахоўвалі, але потым яе вырашылі выкарыстоўваць у якасці сіласнага корму жывёлам. Пасля таго, як яна была культываванa ў якасці сіласнага корму амаль па ўсяму Савецкаму Саюзу, у тым ліку і БССР, сельская гаспадарка адмовілася ад яе выкарыстоўвання, бо пад парасонамі гэтай расліны, гінула ўсё жывое і ён вылучаў атрутны сок, які прыводзіў да моцных апёкаў.




# Супраць будаўніцтва дома на месцы дзіцячай пляцоўцы

**У Магілёве стартаваў збор подпісаў супраць будаўніцтва дома на месцы дзіцячай пляцоўцы.**

Жыхары м-на Фаціна выступаюць супраць будаўніцтва новага дома на месцы дзіцячай пляцоўцы паміж дамамі №№ 65, 67 ,69, 71, 59, 57, 55 па вул. Маўчанскага.

У якасці аргумента, які прыводзяць ініцыятары збору подпісаў - вялікая шчыльнасць дамоў, якія пабудаваны ў межах мікраёне і адсутнасць месцаў для гуляння дзяцей і з дзецьмі.

"Мы лічым, што можна знайсці і іншые месцы для будаўніцтва чарговага дома, а не ляпіць іх адзін да аднаго, як гэта робіцца ў нас на раёне", - гаворыць жыхар м-на Фаціна Алесь Сердзюкоў.

Сабраныя подпісы актывісты просяць расцэньваць як выражэнне грамадскай думкі пры будаўніцтве новых аб'ектаў у адпаведнасці с заканадаўствам Рэспублікі Беларусь і збіраюцца іх выслаць дэпутатам гарадскога і абласнога Савета дэпутатаў.

Трэба адзначыць, што гэта чарговы збор подпісаў за вырашэнне лакальнай сацыяльнай праблемы, ініцыяваны актывістамі кампаніі "Гавары праўду"!

# "Говори правду" поздравляет налоговиков

**В Могилеве активисты кампании "Говори правду" поздравили ветеранов налоговой службы с профессиональным праздником.**

7 июля активисты кампании "Говори правду" поздравили ветеранов налоговой службы с профессиональным праздником и подарили им книги поэта Владимира Некляева.

На встрече с бывшими налоговиками присутствовали и представители малого и среднего бизнеса, которые предложили обсудить актуальный вопрос: что нужно изменить в налоговой практике, чтобы страна заработала?

Однако ожидания организаторов встречи сбылись не в полной мере: в канун праздника, налоговики, несмотря на очевидные факты, продолжали отстаивать честь мундира: планов по штрафам никто не спускает, все проверки можно просмотреть на специальном сайте и к ним заранее подготовиться.




Следует отметить, что в этом году по устному указанию "сверху" работникам налоговой службы в Могилеве запрещено отмечать в кампаниях профессиональный праздник под угрозой увольнения. Предлог: работники молодые, перепьют, неизвестно чего наделают...

В конце встречи Любовь Подрябинкина отметила: "Передайте поэту Некляеву, что мы преклоняемся перед ним, за то, что он вспомнил про наш профессиональный праздник".

# В Могилеве собирают подписи за капитальный ремонт ветхих домов

**Активисты кампании "Говори правду!" инициировали очередной сбор подписей за решение актуальной социальной проблемы. На этот раз они пытаются привлечь внимание властей к ремонту ветхих домов.**

- Мы считаем, что первоочередная задача любой власти - заботиться о качестве жизни людей. В городе не решен вопрос с ветхими "хрущевками", во многих домах зимой и летом холод, сырость. Поэтому в первую очередь нужно отремонтировать наши дома, а не строить спортивные объекты, которые не приносят прибыли, а только требуют бюджетных вливаний, - говорит инициатор сбора подписей Наталья Зайцева.



Кроме этого, в своем обращении активисты кампании требуют прекратить строительство спортивных объектов в городе до полного завершения капитальных ремонтов домов, которые должны были быть отремонтированы еще в 2009 году.

- Мы считаем, поскольку мы платим налоги, мы и должны решать - куда должны идти наши деньги, - говорит Наталья Зайцева.

Собранные подписи активисты кампании передадут представителям городского и областного Совета депутатов.

**Наш Магілёў**

**Незалежнае грамадска - палітычнае выданне Горада**
**Выдавец Андрусь Волкаў, дырэктар Вітольд Няўрыда.**
**Надрукавана на ксераксе ў горадзе Магілёве. Наклад: 299 ас.**
**e-mail: mahilou@tut.by**